# БЕЛАРУСЬ ГЭТА ЖАНЧЫНА







**XXI ТРЫЯЛОГ У КРЫНКАХ 27–28 ЖНІЎНЯ 2021**

**! КУЛЬТУРА ! ЛІТАРАТУРА ! МУЗЫКА ! МАСТАЦТВА ! ПАЛІТЫКА !**

KRAPIVA

! ПРАГРАМА ! ПРАГРАМА ! ПРАГРАМА ! ПРАГРАМА !

**27 ЖНІЎНЯ** [ПЯТНІЦА]

МАСТАЦТВА // 17:00 – 19:30
Галерэя Крынкі – вул. Ю. Пілсуцкага 6

«КАЛІ ФОРМЫ СТАНОВЯЦЦА СТАЎЛЕННЕМ»

Куратарка / Ілона Дзяргач
Каардынатар выставачнага праэкта / Андрэй Дурэйка

Мастачкі / ТВОРЫ:
Ала Савашэвіч / ГОЛАСЫ / ГАЛАСЫ
Антаніна Слабодчыкава / ДОКАЗЫ З КРАІНЫ Б.
Кацярына Сакалоўская / САБАКІ ОНЛАЙН
Жанна Гладко / ПАРАЛЕЛЬНЫЯ ПАМЕРЫ
Маша Мароз / ДОЎГАЯ ДАРОГА ДАДОМУ.
МАНТРА. ДОЎГАЯ ДАРОГА ДАДОМУ
Марына Напрушкіна / БУДУЧЫНЯ ДЛЯ КОЖНАГА
Воля Сасноўская / НАШЫХ ЖАНЧЫН
Васіліса Паляніна / БЕЗ НАЗВЫ

**28 ЖНІЎНЯ** [СУБОТА]

ДЫСКУСІЯ // 11:00 – 17:00
Сядзіба Фонда Villa Sokrates
– вул. Каўказкая

«БЕЛАРУСЬ ГЭТА ЖАНЧЫНА»

МАДЭРАТАР: Мікалай Ваўранюк

11:00 – 12:30 / ЛІТАРАТУРА:
Валярына Кустава, Таццяна Нядбай, Наталля Русецкая

13:00 – 14:30 / КУЛЬТУРА:
Вольга Гардзейчык-Мазярска, Леся Пчолка, Ганна Чыстасердава

15:30 – 17:00 / ПАЛІТЫКА:
Алена Агарэлышава, Наталля Васілевіч,
Вольга Кавалькова, Вольга Сямашка

МУЗЫКА // 19:00 – 22:00
Сядзіба Фонда Villa Sokrates – вул. Каўказкая

19:00 КАРАЛІНА ЦІХАЯ І СУПОЛКА

20:30 SHUMA

**27 SIERPNIA** [PIĄTEK]

WYSTAWA // 17:00 – 19:30
Galeria Krynki – ul. J. Piłsudskiego 6

«KIEDY FORMY STAJĄ SIĘ POSTAWĄ»

Kuratorka / Ilona Dergach
Koordynator projektu wystawy / Andrei Dureika

Artystki / DZIEŁA:
Ala Savashevich / VOICES/ GŁOSY
Antonina Slobodchikova / DOWODY Z KRAJU B.
Katerina Sokolovskaya / PSY ONLINE
Masha Maroz / DŁUGA DROGA DO DOMU
MANTRA. DŁUGA DROGA DO DOMU
Zhanna Gladko / WYMIARY RÓWNOLEGŁE
Marina Naprushkina / PRZYSZŁOŚĆ DLA WSZYSTKICH
Olia Sosnovskaya / NASZYCH KOBIET
Vasilisa Palianina / BEZ TYTUŁU

**28 SIERPNIA** [SOBOTA]

DYSKUSJA // 11:00 – 17:00
Siedziba Fundacji Villa Sokrates
– ul. Kaukazka

«БЕЛАРУСЬ ГЭТА ЖАНЧЫНА»

MODERATOR: Mikołaj Wawrzeniuk

11:00 – 12:30 / LITERATURA:
Valeryja Kustava, Taciana Niadbaj, Natalia Rusiecka

13:00 – 14:30 KULTURA:
Olga Hardziejczyk-Maziarska, Lesia Pczełka,
Anna Chistoserdova

15:30 – 17:00 / POLITYKA:
Lena Aharelysheva, Natallia Vasilevich,
Volha Kavalkova, Volha Siamashka

MUZYKA // 19:00 – 22:00
Siedziba Fundacji Villa Sokrates – ul. Kaukazka

19:00 KAROLINA CICHA I SPÓŁKA

20:30 SHUMA

! PROGRAM ! PROGRAM ! PROGRAM ! PROGRAM ! PROGRAM !

ORGANIZATOR: FUNDACJA VILLA SOKRATES
STRATEGICZNY PARTNER: WOJEWÓDZTWO PODLASKIE

XXI TRIALOG ODBYWA SIĘ PRZY FINANSOWYM
WSPARCIU WOJEWÓDZTWA PODLASKIEGO

PARTNER: URZĄD MIASTA KRYNKI







PATRONAT MEDIALNY:















## ! БЕЛАРУСЬ ГЭТА ЖАНЧЫНА

Тэма сёлетняга Трыялога інсціраваная падзеямі крыху больш за дванаццаць апошніх месяцаў на Беларусі. За гэты час шмат чаго адбылося, і гэта рэчы настолькі важныя, новыя і небывалыя, што ўсе мы зачараваныя, загледжаныя, услуханыя і заінтрыгаваныя развіццём падзей. Святлана Алексіевіч, першая і пакуль адзіная лаўрэатка Нобелеўскай прэміі з Беларусі, з'яўляецца аўтаркай кнігі: „У вайны не жаночае аблічча". З відавочнай спасылкай на гэтую кнігу мы чуем сцверджанні: „У свабоднай Беларусі – твар жанчыны", „У беларускай апазіцыі – твар жанчыны", „У пратэсту – твар жанчыны" і г.д. Усё гэта сапраўды так, бо ўлетку мінулага года з'явіўся нізавы, спантанны грамадскі рух, здамінаваны жанчынамі і на чале якога сталі тры маладыя, прыгожыя і смелыя, звычайныя беларускія жанчыны. Не палітыкі, а жонкі і маці. „Беларускае грамадства прачнулася", „Беларусь праходзіць паскораны курс грамадзянскага даспявання", „Больш ужо не будзе вяртання да псеўдавыбараў і чарговых тэрмінаў нязменнага сатрапа", – чуваць было аптымістычныя каментары. Сапраўды, у грамадстве звыш меры патрыярхальным і кансерватыўным, такім як беларускае, якое ў невялікай ступені засвоіла здабыткі фемінізму, дзе роля жанчын была і дагэтуль застаецца сціслa рэгламентаваная, жанчыны як рухавік і ікона перамен, гэта цалкам новая з'ява і якасць. Рэальнай і дзейснай сілы гэтай з'явы і яе канчатковага выніку мы пакуль не ведаем, затое яна – як мінімум – абуджае надзею. Калі мы кажам, што „Беларусь – жанчына", гэта адпавядае і стэрэатыпам, і міфам, і рэальнаму менталітэту беларусаў. Усе назовы і прыкметы гэтай краіны жаночага роду і маюць жаночы адценак. Беларусь бы жанчына: мацярынская, кахаючая, чуллівая, пяшчотная, сінявокая, добрая, шчырая, добразычлівая, гасцінная, працавітая, спакойная, ураўнаважаная, памяркоўная, цярплівая, але таксама шматпакутная, якую бясконца недаацэньваюць, крыўдзяць, абражаюць, зневажаюць, прыніжаюць, на долю якой выпаў цяжкі лёс і г.д. І тым не менш, у гэтым грамадстве, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы і строгае размеркаванне роляў, як у мінулым, гэтак і цяпер, мы бачым шмат знакавых фігур разумных, смелых і выдатных жанчын, якія расславілі краіну і заўважана паўплывалі на яе лёс і гісторыю. Каб быць прыкмечанай і пачутай, амаль кожная з гэтых жанчын павінна была быць удвая разумнейшай, смялейшай і адоранай, чым мужчыны. Таксама і тое, што мы назіраем са жніўня мінулага года, я схільны назваць: АБУДЖЭННЕМ СІНЯВОКАЙ ШМАТПАКУТНІЦЫ.

## ! ЛУКАШЭНКА КАТАЛІЗАТАРАМ БУНТУ

Яшчэ перад жнівеньскімі выбарамі, летась, міжнародныя, праваабарончыя арганізацыі, такія як Amnesty International папярэджвалі, што надзвычай жорсткія рэпрэсіі ў дачыненні да жанчын-актывістак, ідуць з самых вяршынь улады. Ізноў аджылі даўнія стэрэатыпы і дыскрымінацыя аснаваны на перакананні, што жанчыны істоты „крохкія" і „слабыя", што яны не маюць права свабодна распараджацца нават сваім целам, а іхняя асноўная роля звязаная з мацярынствам і клопатам пра сям'ю. Кожны раз, калі я задумваўся над прычынамі незвычайнай актыўнасці жанчын, у першую чаргу на думку прыходзілі: зняважаны гонар, пакрыўджанасць і пачуццё годнасці. Калі некага, бы Украіну у Расеі даўгія гады абясцэньваюць, абражаюць, высмейваюць і адначасова адклікаюцца да трохадзінага братэрства, дык рэакцыя можа быць адна бы ў вершы Настасіі Дмітрук – адстанце, адчапіцеся ад нас раз і назаўжды, дайце нам спакойна жыць. „Мы ніколі не будзем братамі, ні па Бацькаўшчыне, ні па маме (...) Вы сябе назвалі «старэйшымі». Можам быць нават «малодшымі», але без вас (...) У вас цар, а ў нас – Дэмакратыя. Мы ніколі не будзем братамі". Не памятаю, калі гэта было дакладна, але здаецца за мяжою, я з немалым здзіўленнем прыкмеціў, што ў кампаніі, мужчыны з Усходу, вітаюцца паціскаючы рукі толькі з мужчынамі. Палякі ледзь не з засосам цалавалі жанчын па руках, а расейцы – абміналі. Хтосьці скажа: такі звычай, але я гэта ўспрыняў як доказ вялікага і глыбокага нераўнапраўя.

Існуе мала вядомае паняцце „мізагінізму" (стараграр. μῖσος mĩsos „нянавісць", γυνή gynḗ „жанчына"). Паводле вызначэння гэта нянавісць, пагарда або прадузятасць у дачыненні да жанчын і дзяўчат. У патрыярхальных грамадствах, а беларускае з'яўляецца класічным прыкладам такога, гэта выяўляецца шматлікім чынам, сярод іншага грамадскай маргіналізацыяй, полавай дыскрымінацыяй, варожасцю, мужацэнтрызмам, патрыярхатам, прывілеяваным становішчам мужчын, прыніжэннем жанчын, пазбаўленнем іх грамадзянскіх правоў, гвалтам і стаўленнем да жанчыны як прадмету сексуальнага заспакаення. У Беларусі першым і галоўным мізагінам з'яўляецца прэзідэнт Аляксандар Лукашэнка. З аднаго боку ён ахвоча даручае жанчынам высокія пасады ў сваім атачэнні, падахвочвае жанчын да большага прадстаўніцтва ў структурах

улады, аднак хутчэй як аздабленне, дзеля іміджу, сімвалічна і толькі да часу, пакуль тыя ўсяго толькі імітуюць бурную дзейнасць, на „правільным" баку. Калі жанчына высоўваецца наперад будучы ў апазіцыі да „бацькі" народа, тады пачынаецца яе дыскрэдытацыя, пагардлівыя эпітэты на яе адрас, паклёпніцкая кампанія ў прыўладных СМІ. Прэзідэнт можа з паблажлівай іроніяй выказвацца пра найбліжэйшых „прыгожанькіх і дурненькіх" сакратарках, можа хваліць іншых жанчын за іх клопат пра выхаванне маладога пакалення ў духу традыцый і маральных каштоўнасцей, затое іншым разам, у адпаведнасці са сваім калгасным але каларытным лексіконам адкрыта параўноўваць жанчын да быдла кажучы, што „заможныя жанчыны пастаянна ходзяць у салоны прыгажосці «чысціць капыта»". 29 мая, у рамках прэзідэнцкай кампаніі, падчас наведвання трактарнага завода Лукашэнка заявіў, што „у нас Канстытуцыя напісаная не пад жанчыну (у якасці прэзідэнта). У нас грамадства яшчэ не даспела да таго, каб галасаваць на жанчыну, бо згодна з Канстытуцыяй, прэзідэнт надзелены вялікай уладай". 20 чэрвеня, спрабуючы змякчыць ранейшае прасцяцкае выказванне ён заблытаўся яшчэ мацней. „У нас Канстытуцыя такая, што нават мужчыну цяжка несці ярмо прэзідэнцтва, а ўзвалі яго на жанчыну, дык бедняга – упадзе".

Раней, на палітычнай сцэне Беларусі, асабліва апазіцыйнай, жанчыны праяўлялі сябе зрэдку. У 2015 годзе ў прэзідэнцкіх выбарах удзельнічала Таццяна Караткевіч. Пазней, дэпутаткамі парламенту сталі: Алена Анісім і Ганна Канапацкая. Гэтай другой велікадушна было дазволена „пабыць" кандыдаткай у прэзідэнты. Кіраўнічка Адміністрацыі прэзідэнта, прыгожыя прэс-сакратарка Наталля Эйсмант або Міс Беларусі Марыя Васілевіч, даўганогія „Барбі-сакратаркі", гэта дапушчальныя ўпрыгожанні ўлады. Праўда, жанчыны заўсёды былі парламентарыямі, займалі адміністрацыйныя, нават міністэрскія пасады, гарантавалі полавы парытэт, але гэта не мяняла ўсеагульнага пераканання, што „вялікая палітыка" – не занятак для жанчыны. Таму, калі ў 2010 годзе жанчыны выйшлі на вулічныя дэманстрацыі, старшыня ЦВК – Лідзія Ярмошына заявіла ім: „Ідзіце варыць боршч, а не дэманстраваць". Нязменная кіраўнічка Выбарчай Камісіі, якая чвэрць стагоддзя, без якога-небудзь дакору сумлення, паслужліва і рупліва падносіць Лукашэнку „адпаведныя" вынікі выбараў, каб ягоная перамога была традыцыйна „бліскучая" праўдападобна па сённяшні дзень упэўненая, што яна не „акрэслівае" палітыкі. Яна ўсяго толькі выконвае даручэнні. Яна пагаджаецца з тым, што такая павінна быць роля жанчыны. Гэтак лічыць яе гаспадар, мільёны мужчын і нават мільёны жанчын.

## ! ВЯЛІКІЯ ЖАНЧЫНЫ У БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ

Падчас калі многія беларусы гэтак лічаць спасылаючыся на традыцыю, то асобы ў „вярхах" такія тэорыі афіцыйна агучваюць. У такой сітуацыі адчуваю моцную спакусу, каб вярнуць іх у школьныя класы і параіць пагартаць кніжкі. Нават не надта начытаны чалавек імгненна ўзгадае прынамсі некалькі знакамітых постацей у беларускай гісторыі. Настойліва падахвочваю знайсці і прачытаць хаця б некалькі прац пра таленавітых, смелых, прыгожых і высакародных жанчын, якія на працягу ўсяе гісторыі змянялі свет да лепшага, неаднойчы насуперак акалічнасцям і навязанай ім ролі. Маю на ўвазе хаця б выдадзеную ў 2008 годзе кнігу Ірыны Масляніцынай і Міколы Багадзяжа: „Жанчыны: самыя знакамітыя ў гсісторыі Беларусі". Яны прадставілі партрэты 16 цудоўных, выдатных жанчын падкрэсліваючы, што гэта іх суб'ектыўны, вельмі кароткі спіс. У 2009 годзе Анатоль Мяснікаў выдаў кніжку „Сто постацей беларускай гісторыі". У 2020 годзе выйшла з друку кніжка Дзімітрыя Кашавара „Беларускія жанчыны, якія апярэдзілі эпоху". Тым, што характарызуе гэтыя жанчыны ў першую чаргу з'яўляецца спроба пераадолець схему, наканаванасць, выхад па-за ролю акрэсленую традыцыяй і звычаямі. Калі б кожнай з выдатных жанчын Беларусі прысвяціць па адным сказе найбольш лаканічнай характарыстыкі, гэтым прыйшлася б абмежаваць мой тэкст. Аднак некаторых асоб проста не выпадае абмінуць.

Вось Рагнеда, прыгожая, ганаровая князёўна з Полацка. Міжвольна яна стала прычынай вайны паміж двума князямі-братамі. Яе складанае, трагічнае жыццё стала натхненнем для мастакоў, кампазітараў і паэтаў. Дзякуючы летапісам Рагнеда ўвайшла ў гісторыю як прыклад бязмежнай любові да сваёй Айчыны, абароны жаночага гонару і ахвярнай, мацярынскай любові. Больш як 100 гадоў пазней іншая палачанка – Прадслава, будучая Еўфрасінія адмовілася ад дынастычнага шлюбу і паступіла ў манастыр. Перапісвала і перакладала кнігі, пабудавала ў Полацку два храмы, заснавала два манастыры, адкрывала прыюты для сірот і школы. У XII стагоддзі Еўфрасінія Полацкая лічылася найбольш адукаванай жанчынай Еўропы, стала

праваслаўнай святой і шануецца як асветніца і нябесная ахоўніца Беларусі. У XIV-XV стагоддзях дачка Вялікага Князя Літоўскага – Вітаўта, Соф'я стала маскоўскай княгіняй. Яна энергічна і ўмела змагалася за ўладу і ўплывы а таксама кіравала гераічнай абаронай Масквы ад татараў. Яшчэ адна беларуска – Алена Глінская стала маці Івана Грознага, утаймавала самавольства баяр, правяла грашовую рэформу і цэнтралізацыю дзяржавы. Узімку 1422 года ў Навагрудку Сонька Гальшанская перайшла з праваслаўя ў каталіцтва і як Соф'я стала чацвёртай жонкай караля Уладзіслава Ягайлы і маці двух будучых каралёў. Капліцу ў кракаўскім Вавелі яна загадала размаляваць усходнімі фрэскамі. Яна таксама ініцыявана першы пераклад Біблії на польскую мову. У першай палове XVI стагоддзя прыгажуня Барбара Радзівіл раскахала ў сабе жанатага караля Сігізмунда II Аўгуста, была абазвана „найвялікшай літоўскай распусніцай", але дамаглася каранацыі. Мянушку беларускай Янны д'Арк атрымала Настасся Слуцкая, якая ў рыцарскіх даспехах абараняла родны горад Слуцк ад татараў і па сённяшні дзень шануецца як увасабленне патрыятызму і гераізму. Падобным ваенным гераізмам і здольнасцямі падчас Лістападаўскага паўстання 1831 года ўславілася Эміля Плятэр, апісаная Міцкевічам 24-гадовая дзяўчына, якая арганізавала і ачоліла 500-асабовы атрад паўстанцаў.

Аніяк не адпавядаюць традыцыйнай ролі жонкі і маці іншыя жанчыны ў беларускай гісторыі. Вось крэпасная Антона Тызенгаўза – Апалоня (Дарота) Дарэўская выявіла свой вялікі талент у тэатральна-балетнай школе ў Гародні. Пасля таго як выступіла перад самым каралём Станіславам Панятоўскім, стала прыма-балерынай у прыдворным тэатры манарха. Пасля захопу Рэчыпаспалітай яна трапіла перад аблічча царыцы Кацярыны II у Санкт-Пецярбургу. Саламея Русецкая з Навагрудка стала ў XVIII стагоддзі першай жанчынай-акулістам і працавала ў гэтай прафесіі ў Турэччыне, Расеі і Аўстрыі. Сваё бурнае, прыгодніцкае жыццё апісала ў кніжцы „Працэдуры падарожжаў і авантур майго жыцця". У першай палове XVIII стагоддзя жыла і творча дзейнічала ў Нясвіжы Францішка Уршуля Радзівіл, першая ў Рэчыпаспалітай жанчына-драматург. У 1850-1891 гадах жыла Соф'я Кавалеўская, першая ў свеце жанчына-прафесар у нежаночай галіне матэматыкі і механікі. Звыш усялякай меры годная найвялікшай павагі Марыя Магдалена Радзівілл (1861-1945). Гэтую багатую арыстакратку лічылі дзівакаватай, паколькі яна адкрыта і рашуча падкрэслівала сваё і мужа беларускае паходжанне. Яна шчодра фінансавала беларускія незалежніцкія выданні і арганізацыі а таксама беларускае школьніцтва. Не без значэння для іміджу краіны застаюцца і спартовыя дасягненні. Знакамітая тэнісістка Вікторыя Азаранка выклікае зацікаўленне Беларуссю самым фактам свайго паходжання з Беларусі. Тое самае тычыцца і біятланісткі Дар'і Домрачавай, якой поспехі ідуць на рахунак краіны. Ёсць у гісторыі Беларусі і выдатныя мастачкі, як хаця б Надзея Хадасевіч і Зоя Літвінава. Першая, народжаная на пачатку XX стагоддзя ў барысаўскім павеце Мінскай губерні вясковая дзяўчына рушыла ў шырокі свет, зачараваная авангардным, супрамытыўным мастацтвам. Цераз Смаленск, Варшаву трапіла ў Парыж і там працавала ў жанры сюррэалізму. Мастачка і аматарка новых плыняў намагалася пераадолець „жалезны занавес", наблізіць і прымірыць камуністычны Усход з Захадам. Сябравала з Пікасо, жыла ў атачэнні найвялікшых мастакоў эпохі і стала жонкай вядомага Фернана Леже. Са шчырай сімпатыяй ставілася да камунізму і Савецкага Саюзу, шмат разоў наведвала Бацькаўшчыну і ахвяравала шмат сваіх і мужа карцін беларускім музеям. У сваю чаргу Зоя Літвінава, народжаная ў 1938 годзе спецыялізуецца ў станковым, манументальным мастацтве. Яна карыстаецца вялікім прызнаннем, атрымала шэраг узнагарод а яе працы знаходзяцца ў многіх краінах свету.

У галіне літаратуры можна назваць некалькі дзясяткаў прозвішчаў з ліку якіх ажно цяжка вылучыць найяснейшую зорку. Знакамітая творчасць: Вольгі Іпатавай, Таісы Бондар, Галіны Каржанеўскай, Дануты Бічэль... Здаўна, блізка майму сэрцу, як дарэчы і сэрцу заснавальніка Трыялогу – Сакрата Яновіча, заўсёды была Ларыса Геньюш. Яе бацька паходзіў з Крынак, значыць быў і маім земляком, а сын Юрка жыў у Беластоку. Творчасць Ларысы Геньюш нельга разглядаць у разрыве з яе жыццём і няшчаснай эпохай, у якую ёй выпала жыць. Трапна гэта перадае дакументальны фільм пра яе „Цярновы вянок васількоў". Затое Нобелеўскую Прэмію ў галіне літаратуры, адзіную сярод творцаў, якія жывуць у Беларусі, атрымала 5 гадоў таму Святлана Алексіевіч. Яе спецыяльнасць і літрататурны жанр: дакументальная проза і рэпартаж. Нобелеўскі Камітэт прызнаў Прэмію „за паліфанічнае пісьменства – помнік пакут і мужнасці ў наш час".

Народжаная ва Украіне з маці ўкраінкі і бацькі беларуса яна піша па-расейску, за што многія па сённяшні дзень папракаюць яе. Здарма. Яе мова, эстэтыка, чуллівасць, погляды і сфера зацікаўленняў сфармаваныя самім жыццём. Алексіевіч праўдзівая. Яна не каларызуе свету і не папраўляе сваю біяграфію. Я хацеў бы ёй некалі пра гэта сказаць асабіста. Святлана Алексіевіч увесь час выклікае рознагалоссі, кагосьці злосціць, камусьці не падабаецца, хаця на добры лад ёсць у мяне парада для яе. Няхай кажа: „ Адстаўце вы ўсе ад мяне. Я нікому нічога не вінаватая. Пішу – як хачу і што хачу. Кажу, што думаю і вам не забараняю таго ж самага, але маёй персонай не распараджайцеся. Прэмія гэта суверэннае рашэнне Нобелеўскага Камітэту а я такая самая да і пасля атрымання ўзнагароды".

Вышэй згаданыя жанчыны, гэта ў сваю чаргу мой вельмі кароткі, суверэнны і суб'ектыўны выбар. Гісторыя ведае соткі жанчын, якія з'яўляюцца поўнай проціслегласцю традыцыйнага ўспрымання іх месца і ролі ў грамадстве. Гэты спіс прозвішчаў кароткі і няпоўны, але нават гэтакім выбарам я хацеў падкрэсліць наступнае: усе выдатныя жанчыны ў гісторыі Беларусі вартыя падвойнай павагі, паколькі гэта прыклады пераадольвання бар'ераў традыцыі, выхаду паза звычайную ролю і месца жанчыны, прыклад сацыяльнага павышэння, насуперак паходжанню і грамадскаму статусу. У мінулым нашмат больш чым зараз, жанчына будучы нават арыстакраткай павінна была быць рашучай, пераадольваць больш перашкод і парушаць канвенансы, каб увогуле займацца чымсьці іншым, чым хата і сям'я.

## ! ЖАНОЧАЯ СІМВОЛІКА І ВОБРАЗЫ БЕЛАРУСІ

Усе найпрыгажэйшыя рысы, назовы і метафары Беларусі адклікаюцца да жаноцкасці: найперш маці, жонкі і сястры. Не гісторыкам але найперш літаратарам мы заўдзячаем такія прыметнікі як: велічная, гордая, дарагая, мілая, родная, пяшчотная; белая, сінявокая, сіняя; баявая, добрая, маладая, мужная, прасторная, прыгожая, святая, узгоркавая, урачыстая, баравая, зубрыная, старажытная, шчаслівая. „Пранікніцеся любоўю да маёй роднай Беларусі, людзі. Велічная і гордая, яна таго вартая" (Уладзімір Караткевіч). „Мы раз'едземся дарогамі Беларусі дарагой, Каб настаўнікамі строгімі стаць на шлях працоўны свой" (Ніл Гілевіч). „Малюнкі мілай, роднай Беларусі!" (Алесь Пальчэўскі). „Я ўпершыню так далёка ад родных мясцін... ёсць на свеце мая пяшчотная, працавітая, мужная Беларусь! " (Янка Брыль). „Белая ад поўні Беларусь, сіняя ад знічак Беларусь верыла стагоддзямі баёў у шчасце неадкрытае сваё" (Сяргей Панізнік). „Неба чыстае і глыбокае, І бярозавы ціхі гай... Беларусь мая, сінявокая, Беларусь мая, родны край" (Уладзімір Карызна). „Гордай, баявой і працавітаю, Ганарымся мы табою [Беларуссю] усе" (Пімен Панчанка). „Ты [Беларусь] песні мае разбудзіла, Чую я на сабе цеплыню тваёй матчынай ласкі, Мая родная, добрая, сон мой з дзіцячае казкі" (Канстанцыя Буйло). „Мне здаецца, з першым промнем сонечным Я цябе [Беларусь] пазнаў і палюбіў, Гэткай маладой, прыгожай, сённяшняй, У разліве неабдымных ніў" (Пімен Панчанка). „Тваіх пажарышчаў і дыму, Хоць рэшту горычы ўбяру, Мая жалобная радзіма, Мая святая Беларусь!" (Вера Вярба). „Ты [Беларусь] уздымаешся... урачыстая... Мужная душой і сэрцам чыстая" (Пімен Панчанка). „Ты [Беларусь] стаіш пад сонцам юнай і шчаслівай" (Канстанцыя Буйло). „Пазнаю цябе [Беларусь] юнаю і старажытнаю, У сузор'ях агнёў і ў паводках бяроз" (Генадзь Бураўкін). „Гэта Нёман разліўся бязмежна на грудзях Беларусі прасторнай" (Паўлюк Трус). „Каб жыла Беларусь, Наша ўзгоркавая, баравая" (Ніл Гілевіч). „Самым святым пачуццём Максіма была любоў да Радзімы, да маці-Беларусі" (Генадзь Бураўкін).
З прычыны гістарычнага досведу, цяжкасцей жыцця, гаротнасці, паняволення, гвалту і прыніжэння Беларусь здаўна завуць „шматпакутнай" (ад царкоўнаславянскага і расейскага акрэслення біблейскага Ёва). У беларускай літаратуры Беларусь замучаная, але няскораная, працавітая, але бедная, пакрыўджаная але пагоджаная з лёсам. Заўсёды нехта мацнейшы яе таптаў, эксплуатаваў, прыніжаў, а тая маўчала і трывала спадзяючыся, што Бог усё рассудзіць а яе прыгнятальнікі – самі сябе пакараюць. Моцна прамаўляюць па сённяшні дзень словы пісменніка і рэжысёра Тадэвуша Канвіцкага з кнігі „Каляндар і пясочны гадзіннік" (1976 г.) „Беларусь, Беларусь. Чаму ты завешся Беларуссю, калі не маеш у сабе гэтай белі. Белыя толькі твае палі восенню, белыя — твары стомленых людзей. Ты павінна называцца Дабраруссю, Добрай Зямлёю Добрых Людзей. Не ўрэзалася ты ў памяць людскую, Беларусь. Не адбірала ты ў іншых волі, не рабавала чужой зямлі, не губіла людзей дзеля спрэчак за межы. Ты мела павагу да чужакоў і гасцінны каравай, аддавала

рабаўнікам апошнюю карову і апошні акраец хлеба са знакам крыжа. Аддавала гаротным сцякаючае крывёй сэрца і сваё беднае нярадаснае жыццё. Беларусь, Беларусь шэра-зялёная, з агромністым небам над бялявай галавой... Ты занадта добрая, занадта лагодная, занадта высакародная для нашых часоў".

## ! МЕНТАЛІТЭТ БЕЛАРУСАЎ

Канвіцкі, знакаміты празаік і сцэнарыст родам з Новай Вілейкі быў па сапраўднаму захоплены „Добрарусcю". Ён трапна прыкмеціў сутнасць беларускага нацыянальнага характару. Практычна пра кожны народ існуе шэраг шаблонных ацэнак, міфаў і стэрэатыпаў, якія не ўзяліся з ніадкуль, але і не поўнасцю праўдзівыя. Ёсць наконт менталітэту беларусаў вялікая колькасць прац і даследаванняў, гэтак навуковых як і літаратурных. Сакрат Яновіч заўсёды бедаваў з прычыны размытасці, неакрэсленасці нацыянальнай свядомасці беларусаў. Іх нізкая самаацэнка, загледжанасць на мацнейшых суседзяў, разам з „савецкасцю", моцна яго раздражнялі. (Гэтае другое, савецкасць, для мяне таксама незразумелае як і польская туга за сацыялістычнымі парадкамі так званай „народнай" Польшчы). Часта гучаць выказванні аб празмернай беларускай пакорлівасці, самапрыніжэнні, пасіўнасці, апатычнасці, насцярожанасці, скрытнасці, няўменні адстойваць сваю правату, флегматычнасці, нежаданні хуткіх, радыкальных перамен, бязініцыятыўнасці, кансерватыўнасці і схільнасці да жыцця згоднага з традыцыяй. Гэтым тлумачыцца характэрнае для ўсіх славян няўменне прымаць рашэнні і вырашаць практычныя справы. А з другога боку гаворыцца пра беларускі гуманізм, мужнасць, цярплівасць, стрыманасць, здольнасць выжывання ў самых неспрыяльных умовах, гасціннасць, добразычлівасць, лагоднасць і самастойнасць, ды, як бы насуперак саветызацыі – незалежнасць ад калектыву. Адсюль у народнай прыпеўцы знайшліся словы: „Не баюся марозу; не баюся холаду; баюся калхозу; што там памру з голаду". Беларус як жыхар раўнін, лясоў і балот прывык жыць у сімбіёзе з роднай зямелькай. Свой кавалак зямлі гэта для яго блізкая, жывая істота. Таму ў беларускім фальклоры няма згадак пра далёкія краіны, бо ўвесь неабходны свет можна абняць позіркам: возера, поле, лес. Не вялізная краіна, не 1/6 зямной сушы, але „родны кут", маленькі закутак, які заўсёды прывабны і якога заўжды дастаткова. Беларус – гарачы патрыёт сваёй „малой Радзімы", адсюль прымаўкі: „У сваім краю, бы ў раю", „Кожнаму свой куточак мілы". На вялікі жаль, на памежжы культур і цывілізацый, беларусы згубілі пачуццё нацыянальнай тоеснасці і замянілі яе паняццем „тутэйшасці". Яны былі або паланізаваныя або русіфікаваныя. Шляхта размаўляла па-польску, духавенства па-латыні, па-польску і па-расейску а сяляне па-беларуску. Як „мужыцкая" беларуская мова спрычынілася да закамплексаванасці, няпоўнавартаснасці. Многія войны не маглі не выклікаць у беларусаў прагі міру, таму няма ў народнай культуры чагосьці такога, як гераічны эпас. Шматканфесійны і мірны характар беларусаў выпрацавалі талерантнасць у дачыненні да іншаверцаў і чужынцаў. На думку Уладзіміра Караткевіча, беларусаў характарызуе роўнаправўны статус мужчыны і жанчыны, мяккае і лагоднае стаўленне да дзяцей. Жанчыны магла скардзіцца хіба што толькі на мужа – п'яніцу. Дык адкуль сучаснае перакананне, што палітыка не для жанчын і адсыланне іх на кухню?

Бадай найбольш характэрнай для беларуса лічыцца яго „памяркоўнасць". Да яе адклікаецца нават Лукашэнка, калі хоча падкрэсліць, што беларусы па сваёй натуры спакойныя, даражаць стабільнасцю і прадказальнасцю, а калі ўжо дойдзе да бунту, рэвалюцыі, дэманстрацыі незадаволення, дык гэта мусіць быць інспіраванае звонку. Мовазнаўца Вінцук Вячорка падхапіў пытанне дэфініцыі гэтай нацыянальнай рысы, сабраў мноства меркаванняў на гэтую тэму і сцвердзіў, што гэтага паняцця немагчыма перакласці на ніводную мову адным словам. Можна да яго наблізіцца шляхам апісання. Маўляў, ёсць у гэтым паняцці: пошук залатой сярэдзіны, стрыманасць, прагматызм, развважлівасць, асцярожнасць, зговорлівасць, кампраміснасць, пазбяганне крайнасцей, але гэта не азначае згоды на ўсё. Як у сваім вершы з 1909 года пісаў Якуб Колас: „Я маўчу, маўчу, трываю, але скора загукаю: стрэльбы, хлопчыкі, бяры".

Ёсць наконт характару беларуса вельмі забаўныя, але і трапныя анекдоты. Вось вешаюць немца, расейца і беларуса. Немец памёр хутка. Расеец вырываўся, кідаўся, але таксама сканаў. Беларус вісіць, вісіць, але жыве. Здымаюць з яго пятлю і не могуць надзівіцца, як жа ён выжыў. Той адказвае: – „З пачатку сціснула, моцна прыдушыла, але потым, нічога, прызвычаіўся". Іншым разам правялі навуковы эксперымент. У цёмным

памяшканні, на табурэтку з цвіком на версе, саджалі расейца, украінца і беларуса. Расеец сеў, віснуў, ускочыў, брыдка вылаяўся, і разбіў табурэтку ўшчэнт. Украінец сеў, ускочыў, паглядзеў на цвік, дастаў яго з табурэткі і паклаў у кішэню: – „Прыдасца ў гаспадарцы" – кажа. Беларус сеў, забалела, круціцца, але сядзіць і думае. Урэшце ў задуменні кажа: – „А можа гэтак і трэба?". Значыць, ёсць у беларускім менталітэце такія рысы характару, якія незразумелыя для іншых нацый. Аднак характар чалавека не нязменны, не на ўсё жыццё. Неаднойчы сітуацыя прымушае разбураць стэрэатыпы і браць на сябе іншыя ролі. Гэтак адбылося на нашых вачах у Беларусі і звязанае з падзеямі цягам мінулага года.

## ! ЖАНОЧЫ ТВАР БЕЛАРУСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

Цягам мінулага года з многіх вуснаў гучалі заявы аб тым, што „Беларусь, вольная Беларусь, беларуская рэвалюцыя, беларуская апазіцыя з'яўляецца жанчынай". Грамадзянская Ініцыятыва „Freedom Belarus" выпусціла відэаролік прысвечаны ўдзельніцам мірных пратэстаў. „У Беларусі – жаночы твар" – напісалі аўтары. „Тысячы моцных, смелых, каханых беларускіх жанчын натхнілі нас запісаць гэты ролік. Мы назіралі, суперажывалі і падтрымлівалі іх як маглі. Дзяўчаты, дзеўкі, жанчыны. Вы – фантастычныя. Заўсёды на першай лініі, заўсёды супраць гвалту. Сваімі целамі вы засланялі сваіх дзяцей, мужоў, бацькоў. Вы – сімвал беларускай свабоды, сумленнасці і веры. Дзякуем Вам".

Сапраўды. Улетку мінулага года на палітычнай сцэне Беларусі з'явіўся не адзін, але ажно тры жаночыя твары: Святлана Ціханоўская, жонка зняволенага кандыдата ў прэзідэнты, блогера Сяргея Ціханоўскага, Марыя Калеснікава, кіраўнічка выбарчага штабу, таксама арыштаванага, Віктара Бабарыкі і Вераніка Цапкала, жонка і кіраўнічка выбарчага штабу іншага кандыдата – Валерыя Цапкалы. Першая з іх, Святлана Ціханоўская, маці дваіх дзяцей і хатняя гаспадыня, неспадзявана вырашыла, што замiж мужа яна падасць дакументы на рэгістрацыю ў якасці кандыдаткі і неспадзявана ЦВК зарэгістравала яе. Да такой контркандыдаткі Лукашэнка не ставіўся ўсур'ёз. Ён лічыў, што беларусы не падтрымаюць жанчыну і ніводзін нармальны мужчына не прагаласуе за яе. Прэзідэнт не прызнае нават інстытуту „першай лэйдзі" і сваю законную жонку адаслаў у правінцыю і замкнуў быццам у манастырскім затворы. Яшчэ да рашэння ЦВК і выбараў, тысячы беларусаў выйшлі на вуліцы гарадоў пратэстуючы супраць маніпуляцыяў з кандыдатамі. Міліцыя многіх збіла і затрымала. Тады тры жанчыны аб'яднаялі ў адзін свае выбарчыя штабы. Ціханоўская атрымлівала пагрозы што ў яе адбяруць дзяцей, таму іх вывезла за мяжу, каб працягваць кампанію. Яе папракалі ў тым, што выступае супраць волі мужа, які выказваўся за байкот выбараў, але Святлана заявіла: „Лепш паспрабаваць, чым шкадаваць". Падчас першай сустрэчы з выбаршчыкамі пачала з заявы, што яна – не палітык і кандыдуе з прычыны... любові. „Наша мэта пасля перамогі – новыя выбары; без Лукашэнкі, але з кандыдатамі, якія цяпер за кратамі" – сказала яна. Афіцыйны вынік выбараў вядомы: ізноў 80% для Лукашэнкі, хаця паводле апытанняў яму далі іранічную мянушку „Саша – тры працэнты". Каардынацыйная Рада апазіцыі была ліквідаваная, Марыя Калеснікава трапіла за краты, Вераніка Цапкала з'ехала ў Маскву а Святлана Ціханоўская ў Літву.

З часу адсеення кандыдатаў і крывавага разгону вулічных пратэстаў у першыя дні пасля выбараў, жанчыны сталі вядучай сілай вулічнай апазіцыі. Цягам некалькіх месяцаў, адмыслова ў выбраныя дні тыдня, тысячы жанчын у розным узросце, ад ліцэістак па пенсіянеркі, выходзілі на вуліцы гарадоў спраўна супраціўляючыся дужым, замаскіраваным АМАП-аўцам у балаклавах. Жанчыны тварам апазіцыі, гэта нешта небывалае ў Беларусі і на Усходзе Еўропы. Увесь свет убачыў таксама тры дамы: маладыя, прыгожыя, модна апранутыя і галоўнае – спакойныя, без грымасы нянавісці і заўзятасці. Любоў, сям'я, чалавечнасць замест агрэсіі, сарказму і брутальнасці сталі адметнай рысай беларускай апазіцыі з тварам жанчыны. Дэманстрацыі праходзілі пад гістарычнымі бел-чырвона-белымі сцягамі і нацыянальнымі колерамі. У геральдыцы бель гэта сімвал чысціні, лаяльнасці, пакорлівасці і высакароднасці, затое чырвоны колер азначае любоў, гераізм, руплівасць, ахвярнасць а таксама пакутніцтва, смерць у імя сваёй веры і перакананняў. Такое значэнне маюць і колеры польскага і беларускага сцягоў. Белая вопратка была пазнавальным знакам суфражыстак з пачатку XX стагоддзя. У Беларусі самы светлы колер гэта спасылка на традыцыйны жаночы, белы

з чырвонымі арнаментамі нацыянальны ўбор і гістарычны сцяг. Белы колер зноў стаў сімвалам барацьбы за дэмакратыю, раўнапраўе, годнасць, праўду і свабоду. Беларускія жанчыны дэманстравалі ў бела--чырвоных строях, з такімі ж парасонамі, альбо прынамсі з белай стужкай, сімвалам чысціні і лагоднасці, насуперак абразлівым эпітэтам у свой адрас з боку праўладнай прапаганды аб дэмаралізаваных „наркаманах і прастытутках". Яшчэ адным сімвалам пратэстаў стала карціна Хаіма Суціна пад назвай „Ева". На ёй прадстаўленая жанчына ў чорным, са скрыжаванымі рукамі і скрыўленымі вуснамі. Карціна з калекцыі арыштаванага Віктара Бабарыкі была канфіскаваная ўладамі, нібыта ў рамках следства. На дэманстрацыях з'явіліся рэпрадукцыі „арыштаваных" твораў, асабліва „Евы" з дамаляваным абразлівым жэстам сярэдняга пальца, „Евы" за кратамі, „Евы" ў турэмнай вопратцы альбо затрымліванай АМАП-ам. Адсюль мірны працэс атрымаў адзін з назоваў „еvалюцыя". Па праўдзе, мірныя пратэсты не заўсёды былі зусім спакойныя, бо часцяком жанчыны цалкам дзейна выцягвалі затрыманых з аўтазакаў, уласнымі целамі перагароджвалі міліцыі дарогу да мужчын, якіх па адным выцягвалі з натоўпу, зрывалі ім з галоваў маскі, каб пераставалі быць ананімнымі, выкрыквалі абразлівыя лозунгі ў іх адрас. Без выразнага кіраўніцтва, без арганізацыі і каардынацыі, „маршы годнасці", „маршы мудрасці", крэатыўныя, здагадлівыя акцыі ў розных частках гарадоў дастаўлялі шмат праблем прэтарыянцам Лукашэнкі. На многіх кадрах і здымках увечаная ў прыватнасці 74-гадовая Ніна Багінская. Гэтая апазіцыйная дзеячка, якая не раз трапляла ў ізалятар, стала адной з найбольш распазнавальных гераінь і сімвалаў пратэстаў. Дробная жанчына бы ільвіца змагалася з дужым міліцыянтам, які спрабаваў вырваць у яе сцяг. Часам здавалася, што на дэманстрацыях адны жанчыны, бо і па праўдзе іх было болей, чым мужчын.

Чаму ініцыятыву пераняслі жанчыны? Бо ў сапраўднасці жанчына перамагла на выбарах і мяркуецца, што Святлана Ціхановіч атрымала больш за 50 % галасоў. Яшчэ таму, што Лукашэнка публічна назваў жанчыны на дэманстрацыях "вырадкамі", "падонкамі". Вялізную ролю ў тым, што жанчыны масава сталі выходзіць на пратэсты было тое, што ў самым пачатку міліцыя аднолькава жорстка збівала і мужчын і жанчын. Была парушаная пэўная псіхалагічная мяжа. Кадры з акрываўленымі жанчынамі моцна падштурхнулі іншыя жанчыны заявіць свой пратэст. У такім патрыярхальным грамадстве як беларускае, жанчыны традыцыйна лічацца істотамі слабымі і як такія дагэтуль толькі яны маглі разлічваць на больш лагоднае стаўленне. Аказалася, што яны мелі рацыю, але толькі ў невялікай меры. Жанчыны былі бітыя, зняволеныя, караныя вялікімі штрафамі і зняважаныя на роўні з мужчынамі.

Словы прэзідэнта аб тым, што жанчыны павінны ведаць сваё месца, запачаткавалі кампанію паклёпаў і запалохвання жанчын – актывістак, уключна з пагрозамі згвалтавання альбо адабрання дзяцей. Святлана Ціханоўская атрымлівала мноства ананімных тэлефонаў з пагрозамі фізічнай расправы, калі не адмовіцца ад выбарчай гонкі. У сітуацыі, калі муж арыштаваны, пагроза адабраць дзяцей у маці, якая занядбоўвае свае абавязкі, на аснове канкрэтнага параграфу, гучала вельмі праўдападобна. У 2017 годзе такія самыя пагрозы кіравалі на адрас журналісткі Ларысы Шчыраковай, якая агучвала акцыі апазіцыі. На падставе дэкрэту Нр.18 шмат разоў правяралі ўмовы жыцця і выхавання дзяцей у асоб уцягнутых у палітычную актыўнасць. Аднак клопат пра дзяцей адыходзіў на другі план, калі самотныя маці з дзецьмі атрымлівалі так званыя „суткі" арышту альбо высокія штрафы, як гэта было летась 5 чэрвеня з Аленай Лазарчык.

На думку Вольгі Шпарагі, прадстаўніцы Святланы Ціханоўскай у пытаннях адукацыі і аўтаркі кніжкі „У рэвалюцыі жаночы твар", „галоўная пазітыўная выснова ў тым, што значная частка жанчын паверыла ў свае сілы, адчула сябе больш моцнымі і ўпэўненымі. Жанчыны казалі, што гледзячы на Святлану Ціханоўскую, Марыю Калеснікаву, аб'яднаны штаб, яны адчувалі, што хочуць і могуць узяць эстафету, выходзілі ў «ланцугі салідарнасці» падтрымаць мірны пратэст. Жанчыны прыўнеслі ў гэты пратэст ягоны мірны твар, гэта пераважна жаночы твар. Другія важныя аспекты — шырокая салідарызацыя, крэатыўнасць, эмпатыя. Усе гавораць, што беларуская рэвалюцыя ні з чым не параўнальная, і шмат у чым гэта ўнёсак жанчын. На жаль, жанчыны не ўсведамляюць свайго ўнёску. Частка кажа, што «зрабілі свой уклад, і пойдзем па дамах»". Жанчыны адчуваюць стомленасць, бо яны адначасова працуюць, клапоцяцца пра дзяцей, вядуць хатнюю гаспадарку. Вельмі часта яны клапоцяцца пра мужчын, якія ў турмах, і могуць з гэтай прычыны страціць працу. Самае галоўнае, каб

жанчыны зразумелі, які вялікі ўклад яны зрабілі. Калі паглядзець на мірныя акцыі пратэсту, то гэта велізарная колькасць жанчын — гэта і агульныя акцыі, і жаночыя маршы, і маршы пенсіянерак, бо старэйшых мужчын заўважна меней. Некаторыя актывісткі аказаліся ў вымушанай эміграцый. Гэта не камфорт а неабходнасць. Кніга „У рэвалюцыі жаночы твар" напісана для вялікага нямецкага выдавецтва пра беларускую рэвалюцыю. Назва кнігі інспіраваная Святланай Алексіевіч. „У вайны таксама быў жаночы твар, але жанчынам не хапала бачнасці, іх не заўважалі, маргіналізавалі. У гэтую рэвалюцыю сапраўды жанчыны сталі бачнымі. Мы змагаемся за тое, каб яны былі бачнымі і прысутнічалі ва ўсіх сферах у мірны час" – заявіла Вольга Шпарага.

Аднак нельга абмінаць яшчэ адзін, менш прывабны аспект жаночай рэвалюцыі: супрацоўніц міліцыі, турэмных ахоўніц, суддзяў – жанчын і пракурорак. Журналістка Алена Дубовік кажа, што „я не прыкмеціла розніцы паміж мужской і жаночай агрэсіяй. Мяне ў турме біла жанчына а побач тое самае рабілі мужчыны з іншымі дзяўчатамі і хлопцамі. Міліцыянткі разганяюць жаночыя маршы, потым маладыя жанчыны ў мундзірах складаюць пратаколы ў пастарунках, затым маладыя пракуратаркі патрабуюць максімальнага пакарання і маладзенькія суддзі выносяць жорсткія прысуды. У турмах ахоўніцы брыдка мацюкаюцца, турэмныя лекаркі не аказваюць неабходнай дапамогі. Ахоўніца загадвала мне прысядаць, біла каленам у ніжнія парты жывата, адбірала ежу. Малады ахоўнік моцным выспяткам паваліў пажылую жанчыну на бетонную падлогу". Псіхолаг Вольна Андрэева лічыць, што ў сілавыя структуры паступаюць людзі з асаблівым характарам. Калі ў маладога хлопца спыталі чаму ён хоча быць міліцыянтам, той адказаў: „Бо люблю караць, люблю ўладу". Гэтыя жанчыны ў мундзірах, з даўгімі пазногцямі, з моднымі прычоскамі таксама хочуць быць прыгожыя і прывабныя, але псіхіка ў іх – скрыўленая. Калі б яны былі іншыя, паступілі б ва ўніверсітэт або на медыцыну. На думку журналісткі Насты Захарэвіч, для яе застаецца вялікай загадкай псіхіка маладых жанчын – міліцыянтаў, пракурораў і суддзяў. Старэйшыя, больш дасведчаныя і больш стрыманыя, бо мабыць ведаюць, што ніякая ўлада – не вечная і прыйдзецца адказаць за свае ўчынкі. А маладыя паводзяць сябе бяздумна. Яны насалоджваюцца сваёй уладай, не маюць аніякіх тормазаў, ахвоча выконваюць любыя загады і чэрпаюць з гэтага карысць у выглядзе высокіх заробкаў і службовых кватэр; тут і цяпер.

## ! ЦІ БЕЛАРУСКІЯ ЖАНЧЫНЫ ПЕРАМОГУЦЬ?

Год таму, 9 верасня з „Gazecie Wyborczej" польская пісьменніца і Нобелеўская Лаўрэатка – Ольга Токарчук напісала: „Вольная Беларусь, гэта жанчына". Прыгадваючы тое прымітыўнае сцверджанне Лукашэнкі, што „ў нас Канстытуцыя напісаная не пад жанчыну і што пад цяжарам прэзідэнцтва бядняга ўпадзе", яна дадала: „У мяне дрэнная для Вас і добрая для ўсяго свету вестка: вось жа бядняга не ўпадзе. Больш таго – адваюе свабоду для Беларусі". Пры ўсёй маёй вялікай павазе для творчасці і грамадзянскай пазіцыі Ольгі Токарчук, я дазволю сабе згасіць яе аптымізм. Поўнасцю падзяляю яе салідарнасць з мужнымі жанчынамі Беларусі. Сэрца падказвае, што – так. Адваюе свабоду. Ці лепш сказаць: гэтак павінна быць, калі ёсць на гэтым свеце якая-колечы справядлівасць. Аднак розум падказвае, што ўсяго можа толькі пачацца працяглы працэс вызвалення Беларусі спад дыктатуры. З перспектывы майго жыццёвага і журналісцка-аналітычнага досведу я больш схільны прызнаць, што, згода, гэта адбудзецца, але неабавязкова хутка і неабавязкова свабоду прынясе Святлана Ціханоўская. Пакуль гэта адбудзецца, яшчэ цяжкі кулак брутальнага бязмозгага АМАП--аўца змяшае памаду з крывёю на не адным прыгожым, жаночым твары. Сапраўднае і паўсюднае непрыманне жорсткага рэжыму не мае выканаўчай моцы. Аўтарытарныя рэжымы па сваёй прыродзе адзін аднаго падтрымліваюць і „бацька" мае апірышча ў падобным на яго цары ў Крамлі, які запэўніў сабе панаванне да 2036 года. Зненавіджаная ўлада падпертая аргументам сілы можа пратрымацца доўгія гады. Барацьба Магатмы Гандзі абапертая на грамадзянскім непаслушэнстве была чымсьці больш, чым мірныя маршы, бо быў нават байкот брытанскіх тавараў. Барацьба з апартэідам у РПА працягвалася некалькі дзесяцігоддзяў. Польскай „Solidarności" спатрэбілася 10 гадоў на тое, каб зрынуць сістэму і адбылося гэта не толькі дзякуючы кансалідацыі і рашучасці польскага грамадства, але і дзякуючы спрыяльным вонкавым акалічнасцям, пазіцыі заходняга свету і эрозіі, банкруцтва ўсяго ўсходняга блоку. Зараз, міжнародная сітуацыя можа разгарнуцца гэтак, што з'явяцца праблемы глабальнага маштабу і для Беларусі ніхто не знойдзе часу.

Праўда, ужо ў сярэдзіне жніўня мінулага года, заходнія СМІ з энтузіязмам пісалі пра беларускае паўстанне, пра абуджэнне нацыі, пра якасна новую сітуацыю. Амерыканскі „Time" пісаў, што „Захад абавязаны дапамагчы беларусам вярнуць ім свабоду, не ўцягваючы іх у геапалітычныя гульні з Расіяй. І амерыканцы,

у прыватнасці, павінны навучыцца абараняць дэмакратыю ў кантэксце сваіх выбараў і пераабрання Трампа". Брытанская „The Times" пісала, што „Захад застаецца абыякавым да беларускіх пратэстаў, бо не бачыць супрацьстаяння паміж праеўрапейскай і прарасійскай часткай грамадства, ніхто не ўздымаў копіі Статуі Свабоды і не размахваў сцягамі Еўразвязу. Гэта ўсенароднае паўстанне супраць пагарды, жорсткасці, фальшу і марнатраўнасці яго лідараў. Наша нерашучасць ганьбіць нас". Французскі „Le Monde" заклікаў Еўразвяз „спыніць вайну дыктатара супраць уласнага народа ў цэнтры Еўропы. Хаця ў беларусаў не першы раз крадуць перамогу, не ўпершыню б'юць за тое, што ім не падабаецца, але ніколі імкненне да перамен не адчувалася так выразна, а рэпрэсіі не былі такімі жорсткімі, як зараз. Аднак без вонкавай дапамогі мінская плошча наўрад ці зможа прымусіць Лукашэнку самому адумацца". Аўстрыйскі „Standart" з надзеяй пісаў: „І раней беларусы выходзілі на вуліцы, як гэта было пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, але цяпер да апазіцыі далучылася сапраўды вялікая колькасць людзей. Цяпер усё выглядае інакш. Цяперашні пратэст выйшаў на якасна новы ўзровень".

Усё гэта было напісана год таму, 18-19 жніўня. Была надзея на поспех, што цяпер келіх горычы праліўся, вось спыняцца заводы, збунтуецца армія і паліцыя, дыктатура ўпадзе, Пуцін бы Пілат умые рукі, дасць прытулак Лукашэнку і беларусы правядуць свабодныя выбары. Я, ніжэй падпісаны, таксама гэтага жадаў, але дзесьці пасля месяца пратэстаў з'явіўся сумнеў адносна хуткай перамогі беларускай рэвалюцыі. Прыйшло ацверазенне, падмацаванае ведамі такіх палітолагаў, як Іларыёнаў і Піянткоўскі, пра натуру такіх людзей, як Пуцін і Лукашэнка. Першы пакутуе ад г.зв. „сіндрому Кадафі". Ён баіцца не проста страціць уладу, колькі страціць яе ў выніку пратэстаў уласнага грамадства і самасуду, як гэта было ў выпадку кіраўнікоў Румыніі, Лівіі і Ірака. Лукашэнка гэта ведаў і сказаў Пуціну: „Прашу, добра запамятайце! Сёння я, заўтра Вы". Зразумела, ён атрымаў поўную падтрымку з Масквы. Маральную і матэрыяльную. Людзі выходзілі на вуліцы, а Лукашэнка метадычна аб'язджаў сілавыя структуры і вялікія прадпрыемствы. Ён заявіў арміі, міліцыі і рабочым: „Я гарант вашых прывілеяў, заробкаў і працы. Без мяне, калі «тыя» прыйдуць да ўлады, вы ўсе будзеце вісець, сядзеце за краты альбо застанецеся без працы". З боку прэтарыянцаў Лукашэнкі пачаліся выключна жорсткія рэпрэсіі. Вядома, бяззубы Захад выдаў толькі чарговую рэзалюцыю і толькі пасля прымусовай пасадкі самалёта з апазіцыйным журналістам увёў санкцыі, аднак накшталт забароны продажу футраў эскімосам. Калі ЕЗ не ў стане абараніць дэмакратыю ў сваіх шэрагах, ён тым больш не зможа гэтага зрабіць у сваіх суседзяў. У выніку беларускі рэжым утрымаўся, выжыў, цяпер мусіць аддзячыць Маскве рэальным збліжэннем з Расіяй, але, трэба прызнаць, што гэта нагадвае сітуацыю пасля ўвядзення ваеннага становішча ў Польшчы. Абуджаны ў грамадстве фермент бунту не выпарыўся. Ён прыгашаны, але іскра паўстання тлее і чакае спрыяльнага парыву ветру. На свой 89-ы год. Такая вось мая пазіцыя і мой вельмі стрыманы аптымізм. Хацелася б, каб Ольга Токарчук мела рацыю. Яна належыць да гэтай невялікай групы людзей, якія спалучаюць літаратурны талент з мудрасцю, але тут сітуацыя вельмі складаная і непрадказальная.

Святлана Ціханоўская і беларускія жанчыны ў любым выпадку зрабілі шмат. На жаль, палітыка слушна асацыіруецца з хлуснёй і папулізмам; яна брудная, жорсткая, брутальная і амаральная. Ці лагодная, далікатная, культурная жанчына можа дасягнуць поспеху? Ціханоўска ўжо ачаравала мільёны беларусаў, якім увесь час хлусяць, сваёй сумленнасцю. Яна не радыкальная, не заклікае да канфрантацыі, бо гэта было шкоднае і нічога гэтым не дасягнула б. Яе не прымалі б на еўрапейскіх салонах, таму што гэты ўмоўны „Захад" канфузіцца і саромеецца, калі хтосьці нагадвае яму пра негатоўнасць паміраць за той сімвалічны „Гданьск". Яна абвясціла, што хоча быць усяго толькі пераходным прэзідэнтам, бо не хоча ўлады, і гэтым накіравала сігнал патэнцыяльным кандыдатам, што не пагражае ім і адкрытая да іх. Гэта таксама правільна, бо многія апазіцыйныя палітыкі змагаюцца з сатрапамі, каб потым выгодна рассесціся ў іх крэслах. Яна ўдзельнічала ў выбарах, нечакана ўзяла на сябе замену, і атрымалася ў яе бліскуча, нягледзячы на мужыцка – грубыя ўяўленні Лукашэнкі. Яна слушна з'ехала за мяжу, бо ў турме нават героі бездапаможныя. Цяпер яна мабілізуе грамадскую думку, як кажа, дзеля сям'і, вызвалення палітвязняў, дзеля будучыні задушаных рэжымам суайчыннікаў. Пакуль яна на волі, яна – твар свабоднай Беларусі, твар рэвалюцыі, якой зёрны былі пасеяныя ў галовах. Хай застаецца сабою, не перастае цярпліва нагадваць пра Беларусь прафесійным палітыкам за мяжой і не губляе кантакту з людзьмі ў краіне. На беларускіх кухнях іншыя жанчыны не перастаюць гаварыць пра яе. Гэта многа.

## ! СУМНАЯ КАНСТАТАЦЫЯ

Нядаўна вельмі мяне засмуціў Марыюш Шчыгел. Паколькі я таксама ведаю Чэхію, падзяляю яго чэшскія назіранні і высока цаню яго выдатны інтэлект, я адразу звярнуў увагу на яго горкі тон допісу ў сацыяльнай сетцы. „Адной думкі не ўмею адклеіць ад мазгоў" – піша Шчыгел. Яна гучыць: „А на хр...н вам тая свабода? Я пытаюся рытарычна ў беларусаў. Бо ж калі вы нават адваюеце свабоду, дык пасля, можа праз 20, а можа праз 3 гады, захочаце яе задушыць. Яна стане непатрэбная. Як і ў нас, як у Вугоршчыне і Чэхіі. Па сутнасці таталітарызмы ў гэтых краінах маглі не канчацца ў 1989 годзе. Не было такой патрэбы. Напрыклад, у Чэхіі прэм'ер-міністрам – цынік, які рупіцца найперш пра свае бізнесы, набыў галоўныя газеты ў краіне, каб тыя «пісалі пра яго сумленна», але мае падтрымку маўклівa-выбіральнай большасці, бо ж ён «знізіў пенсіянерам цэны на праезд у публічным транспарце». Вірусы зняволення цыркулююць ў нашых венах і яшчэ прыкідваецца лімфацытамі! (...) Беларусы, навошта вам свабода? Яна супярэчыць натуры чалавека. Падумайце, не будзьце дзецюкамі. Нам свабода аказалася непатрэбная, а паглядзіце як файна жывём. З Данутай Голецкай кожны вечар" – з горкай іроніяй закончыў свой допіс Мар'юш Шчыгел.

Людзі ў большасці падзяляюць яго гнеў, раздражненне і бездапаможнасць, бо самі бачаць, што за 500+ можна купіць галасы, прытупіць прагу свабоды і прыстойнасці ды кіраваць, як у часы Гамулкі. Праўда, падумаў і я. Мы гаворым пра постсавецкую ментальнасць беларусаў, але мы самі – дзеці Польскай Народнай Рэспублікі. Яшчэ 5 гадоў таму прафесар Ежы Эйслер пісаў, што „асноўная спадчына камуністычнай эпохі гэты мы самі", з нашымі комплексамі, страхамі і фобіямі, з патрабавальным стаўленнем да дзяржавы, з моцным аўтарытарным сіндромам, верай у моц загадаў і забарон, з неразуменнем сутнасці дэмакратыі і адсутнасцю павагі да праўды ў грамадскім жыцці. Усё яшчэ зашмат людзей чакае, што дзяржава ім „нешта дасць", палагодзіць за нас нашы справы і возьме нас пад сваю апеку. Змянілася толькі назва партыі, і зноў жа партыя найлепш ведае, хто і калі можа дэманстраваць, урад лепш за грамадзяніна ведае, як той мае распараджацца сваімі грашыма, што фермер можа рабіць са сваёй зямлёй і жанчына са сваім целам. У нас сотні тэлепраграм і дзясяткі – інфармацыйных, але вельмі многім хапае толькі двух, тых нібыта „праўдзівых", з дэбільнай прапагандай поспеху і „паўстаннем з кален".

Магчыма, Беларусь, як краіна, якая даўжэй не мела свабоды, лепш на нас, грамадзян Польшчы, ацэніць свабоду і болей будзе ёю даражыць. Магчыма, жанчыны, як прадаўжальніцы жыцця, якія па сённяшні дзень нясуць на сабе адказнасць за грэх біблійнай Евы, адновяць у нашым хворым мужчынскім свеце здаровы сэнс і ўсвядомяць нам каштоўнасць свабоды.

## ! BIAŁORUŚ TO KOBIETA

PL Temat tegorocznego Trialogu został zainspirowany wydarzeniami ostatnich kilkunastu miesięcy na Białorusi. W tym czasie wydarzyło się bardzo wiele i są to rzeczy tak doniosłe, nowe i niebywałe, że wszyscy jesteśmy zauroczeni, wpatrzeni, wsłuchani, zaintrygowani rozwojem wypadków. Swiatłana Aleksijewicz, pierwsza i jak dotąd jedyna Noblistka z Białorusi jest autorką książki: „Wojna nie ma w sobie nic z kobiety", natomiast niejako w nawiązaniu do jej książki słyszymy z wielu stron stwierdzenia: „Wolna Białoruś ma kobiece oblicze", „Wolna Białoruś ma oblicze kobiety", „Białoruska opozycja ma twarz kobiety", „Protest ma oblicze (twarz) kobiety" itp. Wszystko to odpowiada prawdzie, bo latem ubiegłego roku powstał oddolny ruch, który zdominowały kobiety i na którego czele stanęły trzy młode, piękne i dzielne zwyczajne białoruskie kobiety. Nie polityczki, ale żony i matki. „Białoruskie społeczeństwo przebudziło się", „Białoruś przechodzi przyśpieszony kurs dojrzewania obywatelskiego", „Już nie będzie powrotu do formalnych wyborów i kolejnych kadencji niezmiennego satrapy", tak brzmiały optymistyczne komentarze. Istotnie, w społeczeństwie w dwójnasób patriarchalnym i konserwatywnym jak białoruskie, które tylko w niewielkim stopniu przyswoiło zdobycze feminizmu, gdzie rola kobiety była i nadal jest ściśle reglamentowana, kobiety jako siła napędowa i ikona przemian, to zupełnie nowa jakość. Mocy sprawczej tego zjawiska i końcowego efektu jeszcze nie znamy, natomiast budzi ono nadzieję.

Konstanty Bondaruk

